Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 10 (2204) 7 сакавіка 1991 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 8 кап.



26—28 лютага 1991 года Беларусь наведаў Прэзідэнт СССР М. Гарбачоў. У Прэзідэнта адбыліся цікавыя сустрэчы і шчырыя гутаркі на Мінскім трактарным заводзе. Рабочыя ставілі вострыя і не надта прыемныя для высокага госця пытанні, настойваючы на канкрэтных адказах. У Акадэміі навук БССР М. Гарбачоў упершыню ясна сказаў, што адбываецца ў краіне — ідзе адкрытая барацьба за ўладу. Два дні Прэзідэнт СССР правёў на Гомельшчыне і Магілёўшчыне. На свае вочы пераканаўся, як жывуць беларусы ў зоне, што найбольш пацярпела ад чарнобыльскай катастрофы, адчуў, як звычайны чалавек, увесь трагізм людзей, вымушаных пакуль жыць на «хворай» зямлі. М. Гарбачоў заявіў, што наведанне гэтых месцаў і знаёмства з праблемамі ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы — адна з галоўных мэт яго прыезду ў рэспубліку, яго маральны абавязак. Прэзідэнт СССР заявіў, што не пакіне Беларусь у бядзе.

НА ЗДЫМКАХ: выступленне М. ГАРБАЧОВА ў АН БССР; у час гутаркі з жыхарамі раённага цэнтра Ветка Гомельскай вобласці.



«На язычніцкай магіі слова заснаваны ўсе беларускія традыцыйныя абрады, святы. А народнае свята —стан душы. На любы дзень у беларуса была прыкмета, прымаўка, песня. Нездарма ідэальнай тэрыторыяй для даследавання старажытнаславянскага фальклору называюць вядомыя вучоныя нашае Палессе».

**(Таццяна АНТОНАВА. «АДРАДЗІЦЬ, ЗАХАВАЦЬ, МІЛАВАЦЬ»).**

Стар. 7.

# МАДОННЫ РАМОНТНАЙ БРЫГАДЫ

Жанчына... Як многа ў гэтым слове! Іконна-боскі лік Багародзіцы і пабіты доляй і часам на глыбокія маршчыны родны твар маці. Загадкавая ўсмешка Джаконды і крынічнай чысціні смех першай каханай. Беларуская сялянка, «запрэжаная» ў барану на засеяным жалезам і крывёй пасляваенным полі. І сённяшнім часам: згорбленая над рэйкамі жаночая постаць раз-пораз з надрывам уздымае ў неба кувалду і, няўпэўнена прыцэліўшыся, выбівае з металу тупы жалезны звон — рэквіем па нашай цывілізаванасці. А таксама па колькі разоў дэклараванай славутай роўнасці паміж мужчынам і жанчынай, дзеля чаго мы, асепленыя імпэтам вызвалення слабага полу ад рабскай залежнасці ад дужага, і ўлажылі ў кволыя жаночыя рукі непасільныя прылады працы.

Згадзіцеся, застаўшыся без лакіраванага дэкору, гатунку аўтарытарна-бюракратычнай сістэмы, рэчаіснасць тут паўстае перад намі ва ўсёй сваёй пякучай, агаленай праўдзівасці. Ды такім чынам, што да сораму няёмка гаварыць аб гэтым, тым болей напярэдадні свята. І па-здрадніцку варушыцца маладушша: можа, лепш не кранаць гэты сацыяльны пласт? І так ужо зашмат сябе зняславілі, спалілі ўшчэнт. А куды схавацца ад гэтай рэчаіснасці? Вунь яна ў лічбах статыстыкі. Лезе ў вокны рэдакцыйнага пакоя проста са скрыжавання Ленінскага праспекта і вуліцы Казлова, дзе, бачу, немаладыя кабеты ў аранжавых накідках бяспекі паверх ватовак, сярод мільгаючых туды-сюды трамваяў, бесперапыннага патоку пешаходаў рамантуюць трамвайнае палатно.

Справа няхітрая — адшукаць рамонтніц. Да таго ж адну з тых працаўніц, Валянціну Гурыновіч, я сустрэў па дарозе ў трамвайны парк. Яна і запрасіла мяне ў раздзявальню, якая месціцца ў новым, з вузкімі вокнамі будынку, відаць, разлічаным пад нейкі склад. Раздзявальня аказалася залай, спрэс застаўленай жалезнымі шафкамі для вопраткі. Ля адной сцяны ўсё ж знайшлося месца і століку-калеку, ля другой—лаве.

Адразу да нашай кампаніі далучылася Паўлючэнка Марыя, сяброўка і калега маёй новай знаёмай. Пачуўшы, што за патрэба прывяла журналіста да іх у госці, жанчыны мае расплакаліся: «Пісаць пра нас? Мы ж нікому не патрэбныя, ніхто намі ніколі не цікавіўся, не пытаўся... Што тут пісаць...».

А вось хоць бы тое, што з 52-га года працуе ў трамвайна-тралейбусным упраўленні сталіцы Валянціна Гурыновіч. З таго самага, у якім пачаў курсіраваць з вакзала да плошчы Перамогі першы гарадскі аўтобус. Працавала кантралёрам, кандуктарам.

[Заканчэнне на 3-й стар.].



**НА ЗДЫМКУ: Валянціна ГУРЫНОВІЧ і Марыя ПАЎЛЮЧЭНКА — манцёры службы дарогі.**

Фота С. КРЫЦКАГА.

ПАЛІТЫЧНЫЯ АРЫЕНЦІРЫ

# З ВЫСТУПЛЕННЯЎ ПРЭЗІДЭНТА СССР У БЕЛАРУСІ

Цяпер пытаюцца, ці не заблудзілі мы, ці не трэба паварочваць назад да 1985-га, а можа і да 1983-га года? Я не выпадкова называю гэтыя гады. З усёй перакананасцю, разумеючы сваю адказнасць і перад вамі, і перад усімі нашымі людзьмі, павінен сказаць: вярнуцца назад, адкінуць усё, што мы рабілі гэтыя гады было б самай вялікай памылкай. Толькі на першы погляд можа здавацца, што ўсё было тады нармальна. Ужо ў канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў стала ясна, што так далей весці справы ў краіне нельга. Прырост прадукцыйнасці працы зменшыўся практычна ў два разы, а потым дайшоў да нуля. На адзінку нацыянальнага даходу мы расходавалі ў параўнанні з развітымі краінамі электраэнергіі, паліва, металу, цэменту ў паўтара-два разы больш. Пакуль былі невычарпальныя рэсурсы, добрая кан'юнктура на нафту, невычарпальныя працоўныя рэсурсы — выкручваліся за кошт гэтага. А потым працоўных рэсурсаў стала не хапаць, што ж датычыць прыродных — за імі прыйшлося ісці ў неабжытыя раёны, робячы велізарныя затраты. Як кажуць, бясклапотнае жыццё скончылася.

---

Нягледзячы на ўсе намаганні, краіна ніяк не можа пераадолець цяжкасці, становішча па раду напрамкаў не толькі не паляпшаецца, але набывае пагражальны характар.

У чым тут справа? На гэта пытанне нельга даць адназначны адказ. Адна з прычын, калі гаварыць грунтоўна, — у складанасці вырашаемых намі задач. Мы многаму яшчэ павінны навучыцца, таму што нельга на старых падыходах і ведах асвоіць новыя формы жыцця. Цудаў не бывае, нельга адным рыўком пераскочыць ад аўтарытарна-каманднай сістэмы да дэмакратыі, ад размеркавальнай эканомікі да рынку, ад унітарнай дзяржавы да федэрацыі суверэнных рэспублік.

Другая прычына — у праліках пры распрацоўцы і ажыццяўленні рэформ. Мы наламалі нямала дроў, пакуль шукалі правільныя падыходы да развіцця эканомікі, да праблем дзяржаўнага будаўніцтва. Цяжка даліся рашэнні, якія мы цяпер прынялі і пачалі ажыццяўляць.

І ўсё ж, гаворачы аб прычынах, што вызнач... ця-перашні складаны стан грамадства, важна ... рэс-ліць, што мы ўжо бачым шляхі вырашэння ўзнікшых праблем. Аднак у апошнія год-паўтара прыкладаемыя намі намаганні ў значнай меры блакіруюцца разгорнутай надзвычай жорсткай барацьбой за ўладу. У гэтым, таварышы, сутнасць моманту.

---

Прыходзіцца, аднак, канстатаваць, што ва... овах нашай кволай неакрэплай дэмакратыі не... рыя ўтвораныя палітычныя плыні пачалі дабівацца рэалізацыі сваіх планаў не ў канстытуцыйных рамках і не дзякуючы існуючай законнасці, а насуперак ёй. У гэтым, па сутнасці, увесь драматызм сённяшняй сітуацыі, корань перажываемых цяжкасцей. Нецярпенне і радыкалізм пачалі прыводзіць да нецярпімасці і агрэсіўнасці. Курс на змешаную эканоміку спрабуюць падмяніць авантурыстычным патрабаваннем татальнай прыватызацыі, пераходу да поўнага панавання прыватнай уласнасці. Законнае імкненне народаў да самастойнасці, нацыянальнага адраджэння — штучна трансфарміраваць у нацыяналістычную самаізаляцыю і аўтаркію.

---

З жалем павінен сказаць аб эвалюцыі, якую зведалі дэмакратычныя рухі, што ўзялі ў нас добры пачатак. Пад іх сцягамі і сёння нямала прагрэсіўна думаючых людзей, якія шчыра жадаюць шчасця Айчыне, хварэюць за сённяшні дзень і будучыню сваёй краіны. Бяда, аднак, у тым, што лозунгі, якімі натхняліся гэтыя актыўныя перабудовачныя сілы, у значнай меры аказаліся выпусташанымі, перайначанымі, выкарыстоўваюцца для прыкрыцця іншых далёка ідучых задум.

Групоўкі, якія выступаюць пад флагам дэмакратыі, разнамасныя, але ўжо даволі ясна выявіліся праграмныя ўстаноўкі іх лідэраў. Куды ж хочуць весці нас, прынамсі прапануюць свае паслугі, гэтыя навояўленыя «сябры народа»? Першы тэзіс іх праграмы — дэфедэралізацыя, пад якой падразумяваецца раздрабненне нашай вялікай многанацыянальнай дзяржавы.

---

Мы з вамі хочам у рамках набываемай новай палітычнай культуры весці дыскусію, супастаўленне пазіцый, крытыку і г. д. Праўда, не ўсе гэта ўмеюць, часам, так сказаць, і з гэтага боку чуюцца патрабаванні, як кажуць, «прыціснуць да пазногця». Ну, а што прапануюць з таго боку? З намі вядуць барацьбу з пазіцый псіхалагічнай вайны. Пры адсутнасці пазітыўных праграм звяртаюцца праз галаву парламентаў да народа, да рабочага класа. А сітуацыя напружаная, вось і разлік на тое, што ўдасца «распусціць» Вярхоўны Савет, адправіць у адстаўку Прэзідэнта... А што потым? Робіцца ж гэта ў крытычны момант існавання дзяржавы, на вельмі адказным этапе глыбокіх пераўтварэнняў, калі народ знаходзіцца на грані зрыву. Паўстае пытанне: хто ж рыхтуе дзяржаўны пераварот, хто заклікае да неканстытуцыйных, пазапарламенцкіх форм палітычнай барацьбы?

Мы катэгарычна адхіляем любыя спробы паўтарыць насільны захоп улады, які амаль непазбежна выклікаў бы грамадзянскую вайну. Гэта я заяўляю рашуча, і, спадзяюся, вы разумееце, аб чым размова. У нас ёсць урокі — і ўласныя, і іншых народаў, каб зрабіць такі вывад.

МІЛАСЭРНАСЦЬ І МАРАЛЬ

## ХАПУГІ

Узбуджана крымінальная справа супраць рахункавода-касіра Дзятлаўскага сельсавета А. Семянюк. Нельга сказаць, што гэтая жанчына бедавала. Але, маючы доступ да пасылак гуманітарнай дапамогі, якія прызначаліся сіротам і старым, яна дабралася да іх і распатрашыла. У той жа дзень дэпутат мясцовага Савета С. Любецкая таксама працягнула рукі да гэтых пасылак. Вырашаецца пытанне аб яе адкліканні з ліку народных абраннікаў.

Цягнуць рукі да дароў добрых сэрцаў і службовыя асобы. На станцыю Калядзічы ў адрас Маладзечанскага гарадскога аддзела народнай адукацыі (гарана) з Германіі прыйшоў груз гуманітарнай дапамогі вагой 5 тон. Гэта адзенне, прадукты харчавання для дзяцей-сірот. Члены камісіі па размеркаванню грузаў намеснік загадчыка Маладзечанскага гарана М. Палаза, інспектар гарана Ф. Ількевіч, дырэктар школы № 11 А. Малькевіч, загадчык склада Г. Хаустовіч працавалі з гэтым грузам. Пры выхадзе са склада яны былі праверены работнікамі міліцыі. Аказалася, што дамоў вярталіся не з пустымі рукамі. Неслі з сабой прадукты, дзіцячае адзенне. У складзе работнікі міліцыі знайшлі вялікі поліэтыленавы мяшок, які належаў Хаустовічу. Давялося пацікавіцца і тым, што паспеў перанесці да сябе дамоў загадчык склада. Там выявілі сем імпартных куртак і ўсё тыя ж прадукты з гуманітарных пасылак.

У Ленінскі РАУС Гродна кіраўнікі абласнога Фонду міласэрнасці і здароўя БССР паведамілі, што невядомымі асобамі разукамплектавана 86 пасылак з прадуктамі для інвалідаў. Ахова пры гэтым адсутнічала.

Кажуць, што ў сям'і не без вырадка. Але, на жаль, у нас такіх вырадкаў занадта многа. Ці гэта той самы чалавек «камуністычнай фармацыі», якога выхавала наша грамадства?

МІЖНАРОДНЫЯ ВЫСТАЎКІ




**Працягваецца серыя міжнародных выставак польскіх фірм пад агульнай назвай «Партнёр» у выставачным комплексе «Мінскэкспа» Гандлёва-прамысловай палаты БССР. З 26 лютага па 1 сакавіка тут былі разгорнуты экспазіцыі 64-х фірмаў. Яны прадставілі шырокі асартымент абутку, адзення, прадуктаў харчавання, бытавой электратэхнікі і многае іншае. Як заўжды, на выстаўцы адбылося падпісанне кантрактаў, заключэнне дагавораў на супрацоўніцтва польскіх бізнесменаў са спецыялістамі не толькі Беларусі, але і іншых рэспублік.**

**НА ЗДЫМКУ: экспазіцыя фірмы «Фастэр» са Шчэціна.**

ПАМЯЦЬ

## УДЗЯЧНАСЦЬ НАШЧАДКАЎ

У вёсцы Рутка Навагрудскага раёна адкрыта мемарыяльная дошка, прысвечаная памяці Уладзіслава Барзабагатага — паплечніка Кастуся Каліноўскага па сялянскаму паўстанню 1863 — 1864 гадоў. У. Барзабагаты, па прафесіі ўрач, меў добрую кар'еру, аднак, нягледзячы на ўласны дастатак, узначаліў адзін з атрадаў паўстанцаў на Навагрудчыне, за што і быў прыгавораны царскімі ўладамі да пакарання смерцю. Смерці яму ўдалося пазбегнуць, эмігрыраваўшы ў Францыю, ён, як і многія іншыя ўдзельнікі гэтага паўстання, прыняў удзел у Парыжскай камуне.

ПРАФЕСІЙНАЯ АДУКАЦЫЯ



**Пекараў, повараў, кандытараў, афіцыянтаў рыхтуе Баранавіцкае прафтэхвучылішча Белкаапсаюза. Яго выпускнікі працуюць у многіх сталовых, рэстаранах, кафэ і іншых пунктах грамадскага харчавання па ўсёй рэспубліцы. А будучыя афіцыянты (на здымку) Аксана РУДСКАЯ (злева), Вольга КОЗЫРАВА і Святлана ЛЯХ толькі яшчэ асвойваюць азы сваёй прафесіі.**

*«Абстаноўка больш чым сур'ёзная.*

*У сферы эканомікі мы дайшлі да таго, што ў нас практычна парваліся былыя эканамічныя сувязі.*

*Амаль з усімі рэспублікамі мы падпісалі эканамічныя пагадненні, а з некаторымі — і дагаворы. Асобныя дагаворы дзейнічаюць вельмі эфектыўна: можна толькі парадавацца, як развіваюцца адносіны з Казахстанам, Кіргізіяй, Малдовай. Але, на жаль, так атрымліваецца не з усімі.*

*Некалькі пагоршыліся сувязі з Украінай, галоўным чынам, з заходняй, адкуль мы практычна нічога не атрымліваем.*

*Яшчэ нядаўна кляліся, давалі абяцанні, што ўзорам самых цесных сувязей і выканання абавязацельстваў у адносінах да Беларусі будзе Расія. Павінен сказаць, што нічога не атрымліваецца. Расію раздзіраюць супярэчнасці: тое, што зрабіла цэнтральнае кіраўніцтва Расіі ў адносінах да саюзнага цэнтра, напаткала і яго з боку расійскіх аўтаномій. Мы не можам не ўлічваць гэта і павінны, апрача расійскага цэнтра, альбо нават мінуючы яго, ісці на сувязь з аўтаноміямі».*

*(Вячаслаў КЕБІЧ, Старшыня Савета Міністраў БССР).*

ДЭМАКРАТЫЗАЦЫЯ

## СТВОРАНА СЯЛЯНСКАЯ ПАРТЫЯ

Адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускай сялянскай партыі. На ім прысутнічаў 131 дэлегат ад усіх абласцей рэспублікі і горада Мінска. 84 з іх — сяляне, 16 — сельскагаспадарчыя рабочыя і служачыя, 31 — прадстаўнікі інтэлігенцыі. На пачатку з'езда быў заслуханы даклад арганізацыйнага камітэта, з якім выступіў І. Нікітчанка, член-карэспандэнт УАСГНІЛ, дырэктар Заходняга аддзялення УАСГНІЛ. Затым прайшло абмеркаванне праектаў статута і праграмнай заявы БСП.

На ўстаноўчым з'ездзе былі абраны кіруючыя органы БСП — Цэнтральная рада і Цэнтральная рэвізійная камісія. Старшынёй партыі абраны Я. Лугін, намеснікамі старшыні сталі І. Нікітчанка і М. Антоненка.

НЕЗАЛЕЖНЫ СУД

## ЗНОЎ ЦІСК

Ледзь вырваўшыся з-пад прэса каманднa-бюракратычнай сістэмы, правасуддзе трапіла пад новы: на гэты раз «дэмакратычны». Калі сёння не так ціснуць на суддзю званкі «тэлефоннага права», то зусім не меншы ціск, які аказваецца народнымі дэпутатамі розных ступеняў. Пад вокнамі судзейскіх кабінетаў наладжваюцца пікетаванні, дэманстрацыі, галадоўкі. Ці гэта не ціск?

Як захаваць у такіх умовах прыярытэт закона, весці судовую абарону грамадзяніна, асобы?

Аб гэтым і ішла шчырая размова на сумеснай калегіі Міністэрства юстыцыі БССР і Вярхоўнага суда рэспублікі, удзельнікі якой абмяркоўвалі вынікі работы судоў і ўстаноў юстыцыі ў мінулым годзе, вызначалі задачы па яе ўдасканаленню ў новых умовах.

ВА ЎРАДЗЕ РЭСПУБЛІКІ

## РЭХА ЧАРНОБЫЛЯ

Міграцыя чарнобыльскіх радыенуклідаў, на жаль, працягваецца. На гэты раз яна закранула вёскі Грэнь, Двор-Савічы Брагінскага раёна Гомельскай вобласці. І цяпер жыхары гэтых населеных пунктаў, згодна з распараджэннем Савета Міністраў БССР, падлягаюць перасяленню ў чыстыя раёны.

Гомельскаму аблвыканкому даручана завяршыць перасяленне людзей названых вёсак у 1992 годзе.

## РОЗДУМ АБ ЖАНОЧАЙ ДОЛІ НАПЯРЭДАДНІ 8 САКАВІКА

# МАДОННЫ РАМОНТНАЙ БРЫГАДЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

— Змаглася збіраць гэтыя капейкі за праезд. Як на іх план было выканаць?! Папрасіла перавесці на іншую работу. Адукацыя ў мяне — не вельмі, вось і прапанавалі пайсці ў службу дарогі. З той пары ў ёй і працую.

— А як называецца ваша спецыяльнасць, Валянціна Ігнатаўна, і якую работу вам прызначана выконваць?

— Называемся мы манцёрамі дарогі. Займаемся ўсім, дзе трэба браць на пуп, як кажуць. Чысцім трамвайныя стрэлкі, мяняем шпалы, бывае ўдваіх з Марыяй і цягаем іх. Заліваем асфальт, шчэбень пералапачваем. Кастылі забіваем. Колькі мы іх на сваім вяку забілі! Паглядзіце (паказвае), як пальцы пакруціла. Іншы раз як усходзяцца балець, мярцвеюць, аж плачу хаджу. А ў Марыі шыю на гарбы павыбівала, урач кажа, што ад цяжкай фізічнай напругі. Прыходзіш з работы, рукавіцы соллю набрыняюць, сама ўпрэлая. А я ж немаладзенькая, пенсіянерка ўжо...

— Пенсіянерка?—здзівіўся я. — Дык што ж вас прымушае трымацца гэтага невыноснага і для мужчыны занятку?

Канешне, атрымлівае Валянціна Ігнатаўна пенсію, 123 рублі, што на 2 рублі іжэй нядаўна зацверджанага Вярхоўным Саветам БССР пражытачнага мінімуму. На харчы можа і хапіла б, але ж дочкі ёсць, ім трэба дапамагаць. І сабе купіць зімовыя боты — самае меншае дзве сотні вылажыш. А спадзявацца больш няма на каго. Свайго мужыка яна «выселіла, бо піў і біўся», а ў Марыі Васільеўны гаспадар памёр на рабоце, а «такі крэпкі, прыгожы быў чалавек».

А каб лягчэйшае рамяство дзе пашукаць? Ці мала ў якіх месцах патрабуюцца пенсіянеры? Напрыклад, у гардэробах. Усё ж лягчэй. Пачуў я ў адказ, што, каб я ведаў, уладкавацца гардэробшчыцай нялёгка, патрэбны «сувязі». Гэта— адно, а да яго трэба дадаць і тое, што малы прыробак працаўніцы гардэроба рады не дасць.

— А дзеці? У вас жа ёсць дзеці. Яны могуць забраць да сябе матулю, унукаў няньчылі б.

— Яшчэ дзецям даю помач. А як іначай выкруціцца пры такім падаражанні? — адвяла маю «прапанову» Валянціна Гурыновіч.

— Тады адзінае выйсце—перарадзіцца ў мужчыну,—нясмела пажартаваў я. — Яму, відаць, спраўней жывецца ці не?

Высветлілася: калі ўсё добра, то няблага і жанчыне. Вырашылі: хай усё застаецца так, як Бог даў.

— Вы веруючыя?

— Хрысцімся... Дзеці—хрышчоныя. А вось у царкву зайсці часу не хапае... Вернешся дамоў нарабіўшыся, сядзеш— і як прыкіпеў, сілы няма ўстаць.

— А калі выпадзе трапіць-такі ў царкву, што найперш за ўсё вы будзеце прасіць у Бога?

— Здароўя, вядома,—узяла слова пасля кароткага замяшання Марыя Васільеўна.—І каб адмянілі нам кіраўнікі трэцюю змену, ад 24 гадзін ночы да 8 ранку. Якая была б палёгка! Але галоўнае — здароўя, асабліва дзеткам...

— Вы кажаце дзецям... А была б цяпер у вас магчымасць вярнуцца ў пачатак сямейнага жыцця, маючы ўжо вопыт пражытага, згадзіліся б ізноў мець дзяцей?

Мае субяседніцы катэгарычна адмовіліся: «Ніколі».

— Не зусім вясёлая размова ў нас атрымліваецца... Аднак хутка ваша свята. І я ўпэўнены: мужчынская палова службы дарогі вам, прыгожым жанчынам, прынясе падарункі, кветкі, будзе радасць на душы...

— Не будзе, столькі попелу сабралася на сэрцы. Зойдзеш у магазін—пуста. Не адчуваецца, як бывала, надыход 8 Сакавіка. І якія там кветкі, на нас — ніякае ўвагі,—распавядала Марыя Паўлючэнка. — Нават калі Валянціна руку зламала, машыны не знайшлося, каб дахаты завезці.

Тым не менш пасля складаных падлікаў і прыкідак мае гераіні дакапаліся ўсё ж да «ісціны»: на рабоце кветкі ім дарылі тройчы за ўвесь час...

На развітанне, падзякаваўшы мне за віншаванне з нагоды Дня жанчын, мае субяседніцы далі наказ: расказаць на старонках газеты аб [illegible]цці-быцці нашых замежных суайчынніц, [illegible]ці і яны «сябруюць» з ломам і рыдлёўкай, махаюць молатам?

...Можна пагадзіцца з гіпатэтычнай заўвагай наконт таго, што вуснамі жанчын-манцёраў прамаўляла і імкненне, выкарыстаўшы аказію, выказаць прадстаўніку газеты як мага больш сваіх балячак. Прызнаюся: я не ставіў перад сабой мэту анатаміраваць іх, а заадно і хібы ў рабоце з жанчынамі ў трамвайна-тралейбусным упраўленні. Больш таго, мы часцяком бываем сведкамі варункаў жаночай працы яшчэ горшых, адносін куды больш абыякавых. І гэта не можа не хваляваць. Так, рэчаіснасць б'е па вачах, не ўсім падабаецца. Безумоўна, пэўнае выйсце можа даць прыняцце закона, які забараніў бы выкарыстоўваць жанчын на цяжкай ручной працы. Але сам закон не кінецца рамантаваць кватэру Валянціне Гурыновіч, не знойдзе ёй пасільную работу... Свядомасць нашага грамадства павінна вырасці да разумення таго, што, па словах іспанскага драматурга Лопэ дэ Вэга, «паважаць жанчыну—гэта абавязак, якому кожны шчыры чалавек павінен падпарадкоўвацца ад нараджэння». Адсутнасць жа яго, абавязку, відаць, і прыводзіць нас да духоўнай дэградацыі, а слабы пол да «канвергенцыі» ў дужы...

**Жанчыны Беларусі складаюць 62 працэнты спецыялістаў з вышэйшай і сярэдне-спецыяльнай адукацыяй. Сярод інжынераў і тэхнікаў іх — 41 працэнт, педагогаў і работнікаў культуры і асветы — 78, медыкаў— 87, з эканамічнай адукацыяй — 85 працэнтаў.**

**У 1991 годзе доля жанчын у насельніцтве рэспублікі перасягнула 53, а ў народнай гаспадарцы — 51 працэнт. Адна трэць прадстаўніц слабага полу занята ў прамысловасці, дзве трэці ад іх агульнай колькасці працуюць рабочымі.**

**З агульнай колькасці жанчын-рабочых прамысловасці 71 працэнт выконваюць работу ў трохзменным рэжыме. 145 тысяч жанчын выходзяць у начную змену. А колькасць жанчын, якія працуюць у тры змены, у параўнанні з 1988 годам павялічылася з 18 да 21 працэнта.**

**Жанчын, якія працуюць уручную як пры машынах і механізмах, так і без іх, у 1,5 раза больш, чым мужчын.**

**У 1989 годз[illegible] рэгістравана 1 мільён жанчын-пенсіянераў, з якіх [illegible] тысяч працав[illegible] У сярэднім пенсія жанчыны 29 рублёў не дабірае мужчынскай.**

# БЕЛАРУСАЧКА Ў ДАЛЁКІХ ПАМПАСАХ

**Каб не адкладваць назаўтра наказ і просьбу Валянціны Ігнатаўны і Марыі Васільеўны, я сустрэўся з Вікторыяй КАРПЕЦ, нашай суайчынніцай з Аргенціны. Яна стыпендыятка Беларускага таварыства «Радзіма». Восем гадоў вучыцца ў Мінску, скончыла медыцынскі інстытут, працягвае навучанне ў ардынатуры. Лічу, што яе меркаванне, чалавека больш чым хто дасведчанага ў гэтым пытанні, заслугоўвае ўвагі.**

### ДЗЕ Ў НАС ПРАЦУЮЦЬ ІМІГРАНТКІ З БЕЛАРУСІ!

Пачынаем з таго факта, што менавіта беларуская іміграцыя ў Аргенціне — працоўная. Цалкам залажылася яна перад другой сусветнай вайной, на грунце беднага непісьменнага сялянства. З чаго яна пачынала жыццё на чужыне? З земляробства. Іхняе новае пакаленне таксама працягвала справу бацькоў. З гэтай прычыны надта малая колькасць людзей, тым больш асоб жаночага полу, здолела атрымаць вышэйшую адукацыю. У гара[illegible] нашы жанчыны часцей за ўсё пра[illegible]ць на фабрыках —у тэкстыльнай прамысловасці і г.д. Стаяць за станкамі. У сельскай мясцовасці гаспадыня не працуе, як правіла, хопіць з яе і хатняй работы. А гаспадар апрацоўвае зямлю.

Наогул, дылема «працаваць — не працаваць» залежыць ад эканамічнага стану сям'і. Здараецца і так, што жанчына, каб зарабіць, працуе на фабрыцы і звыш 8 гадзін у дзень. Звычайна, калі муж мае работу і дзеці падраслі, маці займаецца хатняй працай. І, зразумела, з грамадскага жыцця выпадае.

Але ёсць у Аргенціне і другая іміграцыя, руская. Гэта багатыя людзі. Былі і ёсць. Больш было ў іх магчымасці і вучыцца, і дасягнуць, маю на ўвазе жанчын, высокай прыступкі на сацыяльна-іерархічнай лесвіцы. Добра захоўваюць яны і сваю родную мову, нацыянальныя звычаі і традыцыі. А што датычыць немцаў ці армян, мне здаецца, яны ніколі не асімілююцца...

Цяпер некалькі слоў аб цяжкай фізічнай працы. Розныя здараюцца абставіны ў жыцці, аднак у сэнсе зарабляць на жыццё жанчыне ломам ці рыдлёўкай, такога не ведаю. Праўда, жанчыны-пенсіянеркі таксама працуюць, хоць робіцца гэта не зусім афіцыйна.

### ЯК УПЛЫВАЕ «МАЧЫЗМА» НА НАША ЖЫЦЦЁ!

З'ява гэта, характэрная для лацінаамерыканцаў, належыць іхняй сямейна-бытавой і культурнай традыцыі, а не нашай славянскай. Таму яе ўздзеянне я амаль не адчувала. «Мачызма» ёсць культ мужчыны, самца, калі хочаце. Гэта няпісаны кодэкс паводзін, у якім, безумоўна, вяршэнства аддаецца мужчыне. Ён мае права голасу, і жанчына мусіць яму падпарадкоўвацца. Аднак пры гэтым яго галоўная мэта і абавязак — забяспечыць сям'ю матэрыяльна. А яна, сям'я, выглядае больш трывалай, чым у Савецкім Саюзе. Да нядаўняга часу ў Аргенціне быў забаронены развод. Але цікава, што пасля адмены забароны рэзкага павелічэння колькасці разводаў не назіраецца. Трэба прызнаць, што вера, пачуццё нацыянальнага прымушаюць людзей трымацца нашчадкаў, сямейнага ачага. І дзеці паважаюць бацькоў, нярэдка дзеляць з імі дах, даглядаюць у старасці. У гарадской сям'і ў сярэднім 2-3 дзяцей, у вёсцы 5-6. Аднак не прамінеш і палярны феномен, пераняты ў еўрапейцаў. «Канкувіната» — суперсучасная форма супольнага жыцця мужчыны і жанчыны без рэгістрацыі шлюбу. Жыццё заўжды больш складанае, чым наша ўяўленне аб ім...

### ХТО МНЕ БОЛЬШ ПАДАБАЕЦЦА — МУЖЧЫНА-СЛАВЯНІН ЦІ ЛАЦІНААМЕРЫКАНЕЦ! ЦІ ІНДЗЕЕЦ НАВАТ!

Індзейцаў мала захавалася ў краіне. Не шмат я пра іх магу і расказаць. Жывуць дрэнна і цяжка. Якое там жаночае шчасце... І свой выбар я ўжо зрабіла. Каб мне славяне не падабаліся, я не выйшла б замуж за савецкага чалавека. У нас, людзей аднаго роду-племені, аднолькавы і накірунак думак. Мы лёгка пракладваем і масткі разумення паміж сабой, што я не магу сказаць пра тых жа мясцовых аргенцінцаў з іхнім «мачызмам», які пракладвае жанчыне дарогу толькі ад печы да парога. Мы ж хочам аддаваць свае веды і інтэлект і грамадству, хочам быць асобамі. З другога боку, аргенцінцы больш шчодрыя на кампліменты, у тым ліку і незнаёмкам. Гэта нам прыемна чуць заўсёды.

### ЦІ НЕ ШКАДУЮ Я, ШТО НАРАДЗІЛАСЯ ЖАНЧЫНАЙ!

Не. Мне падабаецца быць ёю. У дужага полу занадта многа адказнасці, абавязкаў. Яны не могуць дазволіць сабе слабінку, а мы можам. Наша сіла ў нашай слабасці, як нехта сказаў...

І жанчына, на мой погляд, не павінна даказваць сваю роўнасць з мужчынам тым, што падымае столькі ж грузу, колькі і ён. Калі яна не хоча працаваць, хай не працуе. Асноўны яе клопат тады — выхаванне дзяцей, будучыні і народа, і дзяржавы.

**Артыкулы на старонку падрыхтаваў Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

# КАХАЙЦЕ І БУДЗЬЦЕ КАХАНЫМІ!

Сакавік. На Беларусі ляжыць снег, можа і мароз трохі напалохаць, але адчуваецца вясна, і не толькі ў паветры. Яна адчуваецца ў настроі, у чаканні свята і кахання. Спадары ўспамінаюць пра сваіх спадарынь, ролі мяняюцца, і замест жанчын мужчыны выстройваюцца ў чэргі ў магазінах за падарункамі і кветкамі. У чалавечых адносінах наступае цяпло, бо ўсё становіцца на сваё месца: жанчыны на 8 Сакавіка адчуваюць сябе жанчынамі, а мужчыны — джэнтльменамі. Казка! Во каб так заўсёды! Як мала жанчыне трэба для шчасця — добрае слова, ласкавы погляд, крышачку ўвагі, калі-нікалі букецік кветак, і яна ж вам душу аддасць, бо ў характары беларускай жанчыны — кахаць, пазабыўшы аб усім на свеце.

Вы не згодны? Тады пазнаёмцеся, калі ласка, з артыкулам «Каханне беларускі», надрукаваным у газеце «Беларуская думка» №29, 1919 год.

Каханне сарамлівай і скромнай беларускі заўсёды бывае ціхае, глыбокае, гарачае. Пад учуццёвым уражаннем яна робіцца паэтычнай і глыбокай у паглядах. Беларуска, калі мае ўзаемнасць у сваім каханні, траціць галаву, ласціцца, галубіцца да свайго каханка, безупынку дарыць яго пяшчотамі і зносіць яму сарваныя кветкі, каб міламу заўсёды яе прыпаміналі. Беларускі наогул умеюць гаварыць аб каханні і кахаць умеюць.

Паслухайце ж тады, што беларуская жанчына скажа аб сваім каханні:

Яна за каханне «пайсці гатова на край сьвета», яна-б «за яго жыцьцё аддала, у вагонь ускочыла». Калі да яго ідзе, то так ёй на сэрцы лёгка, што, здаецца, птушкаю, матылём ляціць. «Яе вочкі ніколі ня могуць насыціцца відокам свайго каханка, а сэрца нацешыцца, яна сокала свайго, сваё «вочка ў галаве» так мілуе, што «дух і цела аддала-б», яна ад ног да галавы «выцалавала-б яго, высмактала-б, яна рада была-б, «як тая вужака, акруціцца кругам

(Заканчэнне на 4-й стар.).

ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ

# АПАЭТЫЗАВАЦЬ? НЕ, ДАСЛЕДАВАЦЬ!

**Сёння мы друкуем заканчэнне гутаркі з кандыдатам гістарычных навук, старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі АН БССР Уладзімірам КУЗЬМЕНКАМ.**

**Заканчэнне. Пачатак у №№ 7-9.**

Паўгалоднае жыццё крыху палепшыла атрыманне стыпендыі. «Звышпільнасць» тых гадоў нанесла 19-гадоваму юнаку вельмі цяжкі ўдар. Было выяўлена: бацька Заслонава па сваіх матэрыяльных магчымасцях здольны аказваць дапамогу сыну. Стыпендыю адабралі, а сам Канстанцін аказаўся выключаным з камсамола. Толькі выпадковасць выратавала яму жыццё пры спробе самагубства.

Скончыўшы вучылішча, Заслонаў, дзякуючы ўпартасці, працавітасці, празе даведаў, прайшоў імклівы шлях прафесіянальнага росту ад слесара да майстра, а затым і начальніка паравознага дэпо. Дакументы, успаміны людзей, якія ведалі Заслонава, гавораць пра яго моцнае жаданне быць карысным Радзіме, сумленна працаваць, знайсці сваё месца ў грамадстве. Аднак падзеі, што адбываліся ў краіне, зрабілі неўзабаве яго становішча досыць складаным. Як і на многіх іншых людзей, на яго ўпаў у перадваенныя гады цень неабгрунтаваных падазрэнняў афіцыйных органаў. Вось як гаворыцца пра гэта ва ўспамінах В. Цялегіна, былога начальніка станцыі Орша: «...Прыкладна за год да пачатку вайны нам стала вядома, што начальніку дэпо тав. Заслонаву К. С. па невядомых нам прычынах сталі выносіць палітычны недавер, які выявіўся ў тым, што яму было адмоўлена ў вядзенні закрытых дакументаў. Пры абмеркаванні спецыяльных мабілізацыйных пытанняў прысутнічаў яго намеснік... Матываваўся недавер тым, што ў яго не ўсё ў парадку ў сацыяльным паходжанні».

Праясняе сітуацыю аўтабіяграфія К. Заслонава, знойдзеная ў архіўных фондах. Вось што гаворыцца ў гэтым надзіва сумленным і шчырым дакуменце, датаваным 6 сакавіка 1940 года і праштампаваным пячацю з надпісам «НКДБ. Транспартны аддзел Заходняй чыгункі. Аддзяленне ст. Орша»: «К 1930 году мізэрная гаспадарка бацькі перарасла ў заможную гаспадарку. У 1930 годзе гаспадарка бацькі згарэла (было меркаванне, што нібыта наўмысна спаліў бацька, таму што не хацеў пераходзіць у калгас). Бацька з сям'ёй у выніку пажару пераехаў у г. Петразаводск КАССР. У 1932 годзе бацька як спецперасяленец быў перасялены ў аддаленую мясцовасць СССР — Запаляр'е, горад Хібінагорск... З сям'ёй не меў і не маю сувязі з 1932 года... Цяпер, незалежна ад маёй занятасці, падрабязна прапрацоўваю «Краткий курс ВКП(б)», энергічна рыхтуюся да ўступлення ў кандыдаты ВКП(б). Прыкладу ўсе сілы, усе свае здольнасці, каб партыйная арганізацыя дэпо Орша ацаніла б мяне і палічыла магчымым прыняць мяне ў кандыдаты ВКП(б). Гэта будзе асабліва знамянальнай датай майго жыцця».

Яму б лепш, напэўна, затаіцца, бачачы становішча ў краіне. Аднак помнілася формула: «Сын за бацьку не адказвае». Ужо сфарміравалася цвёрдая вера ў абвешчаныя ВКП(б) ідэалы. І ён адкрыта расказвае пра ўсё...

Вось яшчэ адна вытрымка з успамінаў В. Цялегіна: «...Тыя людзі, якія выносілі тав. Заслонаву палітычны недавер, як паказала жыццё, глыбока памыляліся».

Так, вайна [illegible] ставіла ўсё па сваіх месцах. Заслонаў праявіў сябе сапраўдным патрыётам. Скарыстаўшы вышэйназваныя факты са сваёй біяграфіі, ён змог падмануць гітлераўцаў, стаў арганізатарам і кіраўніком падполля на ст. Орша. Пад яго кіраўніцтвам была разгорнута актыўная дыверсійная дзейнасць, якая паралізавала работу чыгуначнага вузла. Летам 1942 года К. Заслонаў ужо камандаваў буйной партызанскай брыгадай (у ёй налічвалася некалькі соцень чалавек), якая наносіла адчувальныя ўдары па фашыстах. У верасні бясстрашны партызанскі камандзір быў прыняты кандыдатам у члены партыі, а ў пачатку кастрычніка 1942 года яму было даручана кіраваць усімі партызанскімі сіламі Аршанскай зоны. Яго жыццё абарвалася ў баі 14 лістапада 1942 года.

Вось так, калі нічога не спрашчаць... Але ж гэта толькі адзін прыклад.

**— Але калі ўжо нічога не спрашчаць і не ўтойваць, то пакінем гераізм і, можа, пагаворым аб злачыннасці! Бо злачыннасць у партызанскім асяроддзі таксама была прадметам замоўчвання...**

— Не зусім так. Некаторая інфармацыя аб барацьбе партызанскага камандавання, падпольных органаў КП(б)Б за ўмацаванне дысцыпліны, супраць марадзёрства, іншага насілля ў адносінах да насельніцтва, супраць злачынных дзеянняў унутры партызанскіх фарміраванняў прыводзілася. Але самая агульная. Вы нідзе не знойдзеце, напрыклад, апублікаванай колькасці расстраляных за тыя ці іншыя злачынствы па законах ваеннага часу. А менавіта ж так змагаліся ў крайніх выпадках супраць маральнага разбэшчання партызанскіх радоў. Асобы са злачыннымі схільнасцямі, валодаючы зброяй, маглі нарабіць нямала бед (у асобных месцах ім гэта і ўдавалася), падарваць у народзе аўтарытэт партызан. А добрыя ж узаемаадносіны з насельніцтвам былі ўмовай выжывальнасці партызанскіх атрадаў. Таму выхаваўчая работа сярод байцоў партызанскіх падраздзяленняў вялася настойліва, у асноўнай сваёй масе правіннасці і больш сур'ёзныя парушэнні выкараняліся цвёрда. Хаця, вядома, у кожным выпадку вельмі многае залежала ад канкрэтных людзей, якія стаялі на чале партызан таго ці іншага рэгіёна...

Ёсць прыклады, калі на шлях злачынстваў станавіліся і асобы, якія займалі высокія камандныя пасады, былі надзелены ўладай. Вось гэта сапраўды замоўчвалася. Пачытайце нядаўна апублікаваныя (а напісаны яны былі 40 гадоў назад) мемуары вядомага савецкага разведчыка Авідзія Гарчакова «Па-за законам» аб падзеях на Магілёўшчыне. А чаму нельга высветліць з шырока вядомага даведніка «Партызанскія фарміраванні Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны» (Мн., 1983), хто быў камандзірам брыгады «Штурмавая» са снежня 1942 па май 1944 года? Барыс Лунін быў камандзірам. Яго імя замоўчвалася ў гістарычных працах даперабудовачнага часу па зусім зразумелых прычынах. Гаварыць адкрыта аб негатыўных з'явах у партызанскім асяроддзі, тым больш пра злачынныя дзеянні асоб, якія займалі камандныя пасады, у тагачасным грамадска-палітычным становішчы не было магчымасці. А «справа Луніна» з'яўлялася занадта адыёзнай. Як устаноўлена ў 1957 годзе Ваенным трыбуналам Беларускай ваеннай акругі, практычна нязменны камандзір брыгады «Штурмавая» Мінскай вобласці Б. Лунін учыніў цэлы рад самых цяжкіх злачынстваў. Разам са сваімі падручнымі ён у пачатку студзеня 1943 года, не маючы для гэтага ніякіх падстаў, расстраляў групу савецкіх разведчыкаў і падпольшчыкаў, якія памагалі ім. Гэтая група прыбыла ў брыгаду з Мінска (усяго 8 чалавек). Паводле сведчання вядомых беларускіх гісторыкаў А. Залескага і К. Дамарада (публікацыя, падрыхтаваная імі, з'явілася толькі нядаўна), Б. Лунін, які стараўся ўмацаваць сваю ўладу ў брыгадзе, расправіўся таксама з некалькімі падначаленымі яму партызанскімі камандзірамі (у прыватнасці, з камандзірам атрада «Грозны» І. Чугуем і камандзірам атрада імя М. Фрунзе Р. Гурко). На рахунку Луніна і прымус да сужыцця партызанак з наступным расстрэлам іх. Усе гэтыя злачынствы доўгі час яму ўдавался ўтойваць. У 1943 годзе Б. Лунін быў прыняты ў рады ВКП(б), 1 студзе[illegible] 1944 яму прысвоена званне [illegible]оя Савецкага Саюза як камандзіру брыгады, якая мела значныя баявыя дасягненні. Справядлівасць перамагла толькі праз многа гадоў. Злачынца быў пазбаўлены высокага зван[illegible] і асуджаны.

[illegible]аканчваючы нашу гутарку, [illegible]ачу сказаць, што ў цэлым гісторыкам давядзецца перагледзець вельмі многае. Ужо пачата падрыхтоўка фундаментальных даследчыцкіх прац, якія высвечваюць з новых пазіцый ваенныя падзеі ў рэспубліцы. Аднак іх стварэнне — справа не аднаго дня.

**— Хочацца пажадаць поспеху вам і вашым калегам на гэтым шляху. Спадзяёмся, што сваімі знаходкамі і разважаннямі калектыў аддзела будзе і ў далейшым дзяліцца з газетай «Голас Радзімы». Дзякуй за інтэрв'ю.**

**Гутарку вёў В. КРАСЛАЎСКІ.**

# КАХАЙЦЕ І БУДЗЬЦЕ КАХАНЫМІ!

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

шыі яго, каб ад сябе ня выпусьціць ніколі». Ёй, «як рыбе з вадой, так трудна расстацца з міленькім». Чым больш яна кахае, тым больш робіцца нясьмелай і сарамлівай. Беларуска ў каханьні ёсьць найвярнейшая, закаханай ніхто, за ніякае багацьце ў сьвеце ў гэтым недараўняе, «нават маршалак, нават кароль» і тыя не патрафілі б. Для яе мілы ёсьць «прытульны, як кляновы лісток, яна заўсёды аб ім думае» і ў касьцёле, і пры дзеле, і ў пасьцелі, ён ёй вельмі часта сьніцца. Абы толькі яна яго дзе пабачыла, ужо ёй «у вачох матылькі лётаюць», а сэрца «як малаток у грудзі валіць», вецер, што ад яго вее, так ёй пахне, «як расквітшая ліпа». А калі мілы пакажацца ў полі, то ёй здаецца, што перад ім кланяюцца каласы, на сенажаці — усе кветкі і ў лесе ўсе дрэвы пахіляюцца перад ім. У дзень пахмурны яе «сокал мілы», яе «чараўнік» сьвеціць, як сонейка, а ў ноч цёмную — замяняе зоркі.

Беларускай дзяўчыне ўсё можа абрыднуць, толькі не каханак, яна яго больш кахае, як брата, сястру, бацькоў, яна яго «так мілуе, як Бога, бо для яе ён Бог». Яна, яго пешчучы і цалуючы, «за яго-б заўсёды працавала». «Калі б хто думаў адабраць каханку жыцьцё, яна-б кінулася ў ногі разбойніку, молячы яго, каб і ёй жыцьцё адабраў, бо для яе бяз мілага сьвет магілай, а жыцьцё мукай. «У паняцьці паэтычнай беларускі, кахаючай «з усіх сіл і жыл», «праўдзівае каханьне ня ёсць грэхам, бо паходзіць ад Бога», сам Бог сэрцы каханкам у час сну замяняе, і за тое яны так да сябе цягнуць і ліпнуць. Але гэты пацяг сардэчны, гэты «магнес, ад каторага няма ані сну, ані супакою, робіць ёй такое вялікае цярпеньне, што якраз яна просіць каханка: «А мой ты саколіку мілюсенькі! Выбі ты мяне хоць раз па шчочках, па галоўцы, выбі, выбі, але-ж добра, але-ж моцна выбі, дык мо ня буду цябе так кахаць, мо перастану так дурнець». Каханьне — для беларускі — горш ад чаду і найцяжэйшай хваробы, бо чад адурманіць на дзень, на два,— хвароба пазьней пройдзе,— а каханьне падчас мучыць цэлы век. «Ня верыш? — запэўняе каханка. — Дальбог праўда, што мне галава ад думак на тры часьці лопаецца, а сэрца на дзесяць.»

Але яна сьмерці не баіцца, «бо хто на гэтым сьвеце кахаецца, то на тамтым сьвеце двойчы і яшчэ раз двойчы кахае, толькі ўжо без ніякага болю: цярпеньня.

Так беларуска глядзіць на каханьне, такое яе шчырае прызнаньне. Дадаём, што гэтыя шчырыя прызнаньні без ніякай прыкрасы, зусім не ўпаэтызаваны і запісаны даслоўна.

***

**Шаноўныя суайчынніцы! Віншую вас са святам вясны і прыгажосці. Кахайце і будзьце каханымі!**

**Наталля СЦЯЖКО.**

СТВОРАНА ТАВАРЫСТВА «КРУЛЯВЕЦ»

# НАШЫ НА БЕРАГАХ БАЛТЫІ

Кажуць, самы моцны покліч крыві, які прабіваецца праз вякі і адлегласці, праз здзекі і перашкоды цяжкага лёсу. Ён таямнічы і непадуладны калавароту жыцця, ён нязбыўны і неразгаданы. Што можа параўнацца з ім па сіле прыцягнення? Хіба толькі пачуццё Радзімы. Такое ж крынічна чыстае, часам загнанае пад зямлю, яно зноў праб'ецца празрыстымі вытокамі, і дасць глыток жыватворнай вільгаці для памяці аб роднай зямлі.

Пэўна, гэтае святое пачуццё рухала чацвёркай няўрымслівых, апантаных ідэяй аб'яднання суайчыннікаў-беларусаў Калінінградчыны. Сама ідэя прыйшла паасобку выкладчыцам замежнай мовы Калінінградскага універсітэта беларускам Тацццяне Ракач і Ларысе Плісько, а таксама настаўнікам Ігару Шаховічу і Сержуку Маркевічу. Пачуццё Радзімы вяло іх насустрач адзін аднаму. Шукалі па месцы працы, па ўстановах, па падпісцы на беларускі перыядычны друк, нарэшце, у выпадковых сустрэчах па жывучым беларускім акцэнце.

27 студзеня ў Палацы культуры чыгуначнікаў Калінінграда адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Беларускага культурнага таварыства «Крулявец» (старая назва горада Кёнігсберга).

Прыехалі госці з Мінска: актывісты Таварыства беларускай мовы Ігар Міхно, Святлана Багданкевіч, Ала Ткачова, Марына Угрыновіч, Зміцер Лукашук, Сяржук Лаўнік. Быў арганізаваны продаж беларускіх кніг, газет, часопісаў.

Прадстаўніцтва на канферэнцыі самае разнастайнае: людзі розных палітычных поглядаў, рознага ўзросту і адукацыі. Але ўсіх аб'ядноўвае жаданне пачувацца беларусамі, выказаць думкі і меркаванні, як без Радзімы быць разам з ёю.

На берагах Балтыі жыве каля 80 тысяч беларусаў, розныя шляхі прывялі іх сюды.

Старшынёй таварыства абраны малады настаўнік гісторыі Ігар Шаховіч, які цікава расказаў прысутным пра гістарычны лёс Беларусі.

Напружанасць працоўных момантаў канферэнцыі змянілася канцэртам, які наладзіла дэлегацыя з Беларусі. Народныя песні, запісаныя ў беларускіх вёсках у выкананні Алены Ткачовай, Ігара Міхно ды Марыны Угрыновіч, разбудзілі ў сэрцы думкі аб родных мясцінах, дзе яшчэ жывуць старэнькія бацькі і сваякі.

Кранаючым было выступленне маладога барда Сержука Лаўніка. Сябруюць маладыя журналісты Зміцер Лукашук ды Сяржук Лаўнік, сяброўства плённае: вершы піша Зміцер, а музыку — Сяржук.

А потым усе разам паехалі да мора. Гучала пад гоман балтыйскіх хваляў родная беларуская мова.

**Ала КАЖЭРА.**

Дарэчы, улетку сорак першага, калі прыйшла акупацыя, у пакінутым сельсавеце нашы знаёмыя бачылі спісы людзей, якіх не справіліся вывезці на ўсход. Там — з-за мяне — значылася і наша сям'я, і яшчэ дзве сям'і, у тым ліку і ўдовай беднячкі Турчыхі з дзецьмі, два старэйшыя сыны якой таксама былі з польскага войска ў палоне.

Дзядзькавай хатай, каморкай, паграбам, хлявом і гумном карысталіся далейшыя сваякі, а потым, яшчэ ўсё пры Польшчы, ён напісаў нам прадаць будынкі і пляц і грошы выслаць яму, бо і жывецца туга, і хварэюць жонка і ўнук. Перапіскай ды перасылкай займаўся я. Памятаю з прыемнасцю, як пасылаў тыя злоты, а таксама і недаўменне помніцца, з якім чытаў дзядзькавы радасна-ўдзячныя каракулі, з пералікам тых звычайных і не вельмі дарагіх у нашым мястэку рэчаў, якія там, у Саветах, купляюцца праз загадкавы, экзатычны «Торгсин». Скажам, бялізна, порткі, чаравікі...

Пасля вайны старому не палепшала...

Ды ён заставаўся самім сабою, усё яшчэ службістам.

Нам ён сказаў, што вызваліцца ў шэсць гадзін і будзе нас чакаць. А пакуль што, як мы зразумелі, ён на рабоце. Людзі зрэдку ідуць праз брамку, у каго трэба праверыць перонны, каму адказаць на пытанне, што ён тым часам, гаворачы з намі, і рабіў.

Здарылася так, што мы, без віны вінавата, увечары прыпазніліся да яго. І тут я ўспомніў тое, што чулася пра дзядзьку ад старэйшых сямейнікаў: што і нервовы ён, і крыўдлівы, і рэзкі бывае, хоць і душэўны чалавек, і любіў спяваць украінскія песні, асабліва са сваёю галасістай хросніцай, нашай Вілітай. Гэта і ў Загоры, калі ён туды прыязджаў, і ў Адэсе, дзе яна вучылася шыць, а ў вайну і ў бежанстве была. На нас ён пакрыўдзіўся, пабурчэў, што мы «знайшлі раднейшых», а тут і вячэра даўно гатова, і суседзі запрошаны. Мы з жонкай павінаваціліся, ён хутка адышоў, разгаманіўся. Пад смажаную скумбрыю, якая і сапраўды астыла, пад памідоры, кабачкі і іншую смакату мы выпілі маленькімі чарачкамі «Червоного міцного», ад чаго Адэса цяплей спалучылася з Украінай, а адтуль — і з нашымі роднымі мясцінамі.

Ён гаварыў па-адэску. «Я слышал **за тебя** по радио, но думаю: не напишу! Кто чей племянник — я твой или ты мой? Почему Улита мне пишет, а ты что — не можешь?» Хвалячы каго-небудзь, гаварыў: «Это — **тот** парень». Да Ніны маёй звяртаўся «мадамачка». «Внучаньку», як і на пероне, пагладзіў па галаве. Паскардзіўся на сваю пенсію: шэсцьдзесят гадоў у адным дэпо, а плацяць капейкі. «Обидно, голубчик Ваня! А все равно — приболею когда, не выйду, так и кажется, что там без меня все поезда постали!..» Праз мноства небеларускіх гадоў прарывалася і наша, загорскае: «Колхоз там хочуць рабіць? Так жа з нашых гор трактары к чорту пазвальваюцца!» А яшчэ і такое, зусім ужо сваё: «Ванячко, сэрцо маё ўсё баліць. Стары я, адзін-адзіночанькі...»

Калі яго субкватаранты, пажылая бяздзетная пара, што і з падрыхтоўкай вячэры дапамагалі, сціпла развіталіся і пайшлі, я нарэшце спытаўся — пачакаўшы і прыцішана:

— Дядя Павел, как же это с Володей нашим случилось?

Стары, заслужаны, рабочы, партрэт якога вісіць на вакзале, бацька двух камуністаў, старэйшы з якіх яшчэ і герой, ён адказаў мне зусім «па-старарэжымнаму», не вельмі і прыцішаючыся:

— Жидовá партейная погубила его, вот как!..

Так мы з жонкай другі раз за дзень пачулі тое, чаго не было ў пісьмах. Што нейкі М., партыйны сакратар, яўрэй, калі Валодзя, загадчык саўгаснага аддзялення, па справядлівасці выкрасліў яго са спісу на ўзнагароджанне, спадцішка насмуродзіў у гістарычнае «куды трэба». Былі ў яго і сувязі, і памагатыя на беспартыйнага «паляка», радня якога за мяжой, ды яшчэ і «памешчыкі», таго «куды трэба» хапіла...

Цяпер — пра тых, кім дзядзька папракнуў мяне, сказаўшы пра «раднейшых за яго».

Ігнат яшчэ вясной сорак пятага пісаў мне: «Дяде Павлу и Наде по некоторым причинам не пишу». Маё заходніцкае неўразуменне ён праясніў праз год пры сустрэчы. А нядаўна яго Шура, калі мы зноў закранулі гэтую тэму, яшчэ раз растлумачыў тыя «некаторыя прычыны». Сам ён, Ігнат, спачатку свяшчэннік, пасля «перековки» на Беламор-канале са сваёй папоўскай маланадзейнасцю схаваўся за ўральскім хрыбтом, а Валодзя наогул «вораг народа» — што гэта за сваяцтва для дзядзькі з яго сынамкамуністам? А для Надзі — мужаў брат і поп былы, і зэк? А для самога Ігната — з адзіным сынам, за якога дрыжалася ўсю вайну, які павінен далей вучыцца? І асцярожнасць тут, і ўсемагутны таварыш Страх!..

Тыя «некаторыя прычыны», сцішнаватае для нас з жонкай пачужэнне родных людзей паміж сабою мы ў нейкай меры адчулі і самі. У адносінах дзядзькі з удавой і сіротамі найстарэйшага пляменніка, сына «голубчика Антона», а тым больш да сваякоў па жонцы другога пляменніка, Ігната. Здалося нават, што ўсе яны, бліжэйшыя і далейшыя родзічы, нібы толькі дзякуючы нашаму прыезду і дачуліся адны пра адных, схамянуліся, што вось жа паблізу жывуць, а так даўно не сустракаліся, не ведаюць дакладней: хто, дзе, што...

На ад такога, але я стрымана і з няёмкасцю ўгаварыў яго ўзяць і пайсці, адразу цяпер, купіць усё, што трэба. Потым, калі ён хутка вярнуўся з бярэмем кніжак і сшыткаў, мы і далей былі адны ў пакоі, зноў трэба было ўгаворваць пляменніка рэшту пакінуць сабе. «Нет, дядя, я отдам их маме». Строгасць выхавання? Сталенне ў беднасці?.. Кранае гэта і помніцца. І вывад я для сябе зрабіў тады, на некалькі гадоў наперад...

Валя жыла асобна і з'явілася пазней.

Сярод маіх пляменнікаў — большасць дзяўчат. Калі я ўпершыню ўбачыў «адэскую Валю» (ёсць і другія Валі, вясковыя), іх, пляменніц, было чатырнаццаць. Няёмка перабіраць, ацэньваць, але пятнаццатую, Валодзеву, я любіў, здаецца, найбольш. Перад усім, вядома, з-за яе

Працяг. Пачатак у № 8, 9.

Янка БРЫЛЬ

# МУШТУК І ПАПКА

## МАЛЕНЬКАЯ САГА

На «сквере 9 Января», які я памятаю як «Старосенную площадь», дзе замест сённяшніх пастарэлых акацыяў была проста бязмежная для малечы прастора, стаіць у рад некалькі аднатыпных, шэрых ад даўнасці трохпавярховых камяніцаў з брамамі ад тратуара, кожная з вокнамі і балконамі на квадратны забрукаваны дворык. Мяркуючы па былых расказах старэйшых і па сваёй памяці, а цяпер і па некалькіх дзвярных візітках, якія паспелася заўважыць, кватэры тут здаўна і пераважна заселены беларусамі. Лейка, Літвінка, Радзюк, Шавейка, Булдык, Пляскач... У большасці гэта ўжо дзеці і ўнукі тых, што наязджалі ў Адэсу-маму на лягчэйшы хлеб і часцей за ўсё ўладкоўваліся на «жалезнай дарозе». У [illegible] сяліліся паблізу ад вакзала, які ц[illegible], пасля ваеннага разбурэння, адбудаваны па-сучаснаму, а дамы — тыя самыя.

Зайсці ў нашу былую кватэру, паказаць яе жонцы, а перш за ўсё пабачыць самому я не змог, бо там не было нікога дома. Зайшлі мы толькі да Ігнатавых с[illegible]оў па ягонай Веры Раманаўне. Стара[illegible]чаха, пажылая сястра па бацьку. Выпадкова, па-суседску пабачыўся там і з мамінай, нібы спрадвечнай сяброўкай, якая пляснула далонькамі і развяла іх, пачуўшы, чый я: «Господи, такой вот крошка был! Сколько же лет прошло?..» А ў іншым доме, праз адзін, праясніўшы нумарацыю, якая змянілася, мы знайшлі нарэшце і засталі дома тых, каго хацелі пабачыць першымі.

Вузкі, бедны пакойчык. На тое маё, у сорак дзевятым, яшчэ маладое ўспрыманне — немаладая жанчына, як пішацца даўно і часта, са слядамі былое красы, не вельмі здаровая з выгляду. Надзя, «Надежда Ивановна Бриль». Беларуска, па бацьках зямлячка, з не надта далёкага ад Загора Бярозаўца. У дзявочым прозвішчы Трыбуць, рускае вымаўленне даўно адкінула мяккі знак і паставіла націск з другой на першую галосную — Трибуц. Нават такой беларускасці не засталося.

Праз нейкі месяц яна мне напіша: «...Вы все стоите перед глазами, особенно Вы, Ваничка (разрешите мне называть Вас так, как-то роднее), — как много общего у вас с Володей!..» А тады, спачатку, была таксама стрыманасць. «По некоторым причинам»? Аднак не доўга. Потым пайшлі і гутарка блізкіх людзей, і плач, і трохі смеху...

Віктар — бялявы, моцна загарэлы, быстры адэскі галубятнік і рыбак. У мамы, яна мне сцішана расказвала, быў клопат і страх, калі ён, у іхняй чуткай камунальнай камеры з дзвюма койкамі, малым сталом каля сцяны і традыцыйнай «керосинкой» у кутку, аднойчы закрычаў... «подумайте только!» — пра Сталіна: «Я ненавижу его! Он убил моего папу!..»

Набліжалася першае верасня, яму трэба было ў сёмы клас, а яшчэ не сабраўся, падручнікаў ды сшыткаў не купіў. Я тады, ужо трэці год, быў «пры грашах»: за той час выйшлі два зборнікі, вясной апублікавалася ў часопісе першая частка рамана. Мы былі з Віктарам адны ў пакойчыку, жанчыны выйшлі ў магазін. І вось я з грошай, якія заставаліся да Мінска, працягнуў хлопцу купюрыну: меншыя грошы былі ў жонкі. Ён сумеўся: «Мне никогда таких денег не давали. У мамы нет. Она мне не разрешила бы взять...» Заплакаць можтрагічнага сіроцтва. Дый так, сама па сабе, яна была слаўная. Добрая, шчырая, шчабятліва вясёлая. І ўся наша радня яе любіла. Гэта — пазней ужо, пасля таго, як я ўлетку пяцьдзесят дзевятага ездзіў на толькі што купленай «Волзе» ў адэскі дом адпачынку ўкраінскіх пісьменнікаў, а вяртаючыся адтуль з прыемнасцю пачаставаў нашу Валю радзімай бацькоў. З жонкай, траіма дзецьмі і госцяй — на Кішынёў, Львоў, Брэст, з заездам у Белавежскую пушчу, і — у нашу сталіцу, Загора. Дзе жылі яе цётка і дзядзька. Тады ў суседнія Малясельцы, дзе яшчэ адзін дзядзька. Пасля ў «далёкае» па-ранейшаму, за цэлых семнаццаць вёрст, Палужжа, дзе найстарэйшая цётка. І ўсюды столькі дваюрадных, і ўсе т[illegible]к шчыра рады ёй...

А ў сорак дзев[illegible] убачыў яе і сапраўды «з перша[illegible]озірку» палюбіў я першы.

...Два здымкі ў альбоме. Гляджу на іх — праз сорак гадоў пасля той першай сустрэчы.

На адным — дзве сям'і, абедзвюх Трыбуцянак, Надз[illegible] яе старэйшай сястры. У тое хлопе[illegible] дзве дзяўчынкі, у нашай толькі маленькая Валя. Па выглядзе яе можна меркаваць, што было гэта ў трыццаць трэцім або ў трыццаць чацвёртым годзе. Цыбаценькая, тады светлагаловая, яна сядзіць на бацькавых каленях, тварыкам вельмі падобная на таго, каго абняла тонкай ручкай за шыю, замкнутая ў кальцы ягоных рук, счэпленых спераду ў «клямары» вялікіх далоняў. Вясёленькая — побач з яго вялікай, пад машынку астрыжанай галавой і худым, чагосьці сумным тварам. Побач з тым, каго я ледзь-ледзь, «як праз сон», памятаю і не ведаю так, як трэба ведаца братам. Яна — як іскарка, што збліжае нас хоць так: з ім была ў маленстве, са мной у маладосці... Мець брата і так вось, больш як праз паўстагоддзя, пазнаваць яго, вельмі здалёк, прыблізна, па здымках такое даўнасці — як гэта дзіўна, нязвычна да сцішнаватасці!..

На другім здымку, таксама не пазначаным датай, Валі, адной тут, па выгляду нейкіх дзевяць гадоў. Яна ўжо чарнявенькая, пастрыжаная пад хлопчыка з непаслухмяна прыгладжанай направа грыўкай. Вялікія цёмныя вочы, гатовыя бачыць не проста вельмі многа, але ўсё-ўсё. І стрыманая ўсмешка. Бацькава. Складзеныя рукі — локцямі на засланым стале, а далоні схаваныя. Шчаслівае дзіця ў сям'і, якой страшны лёс мноства іншых людзей яшчэ не пагражаў сваім наканаваным набліжэннем...

Цяпер адной з маіх унучак, сынавай дачцы, таксама шчасліва вясёленькай, якраз столькі, колькі Валі на здымку. Я даўно прызвычаіўся да глыбейшага пазнавання жыццёвых з'яў такім чынам, што перш за ўсё і міжвольна стаўлю ў розныя незвычайныя сітуацыі сваіх найбліжэйшых, уяўляючы іх на тым месцы. І мне цяпер, праз унучку, балюча бачыць, як яе даўняя равесніца, — Надзя расказвала мне і пра гэта, — крычала праз бездапаможны плач:

— Ты не иди за ним! Ударь его! Прогони их! Папочка, не иди!..

Гэта — увосень трыццаць сёмага, калі Валодзю арыштоўвалі. Калі прыйшлі ў сям'ю і па нейкаму «праву» забралі бацьку. У тых, для каго ён — усё!..

Думаючы пра яго, бацьку тое дзяўчынкі, пра лёс яго, мне страшна, жудасна перайсці думкай і сэрцам да бацькі гэтай дзяўчынкі, ставіць унучку на месца пляменніцы, сына на месца брата. А ён жа, Валодзя, таксама быў сынам!.. Праз сваіх найбліжэйшых — да разумення агульначалавечага. Тут мы становімся найбліжэй да спрадвечнага, найвярнейшага запавету чалавечнасці: палюбі бліжняга — як самога сябе, як сваіх найраднейшых, такое хочацца дадаць.

У сорак дзевятым Валя была на сваім дваццаць першым. Мела сыночка, мужа. (Мы не пабачылі яго, ён паехаў да маці, у сяло). Прыгожанькая, стройная, бойкая адэсітка. Калі мы віталіся, упершыню ў жыцці, яна какетнула: «Я не целую вас, дядя, я накрашена». «А мне это совсем не мешает», — адказаў я, абняўшы яе, танклява, модна элегантную, ці то з нейкім дзіўным, невыразна светлым напамінам пра кагосьці вельмі блізкага, любімага, ці то з прадчуваннем нашай сардэчнай дружбы, з перапіскай і спатканнямі.

На працягу наступных гадоў, да восені семдзесят другога, да таго адвячорка, калі яна, касір невялікай аптэкі, маці двух сыноў і жонка хваравітага мужа, шафёра таксі, сумна вярталася з працы і... назаўсёды ўпала на тратуары свайго завулка. Падкошаная кровазліццём у без пары пасівелую галаву, бездапаможную, у жахлівым тупіку наркаманавай маці.

І ўсё гэта жыццё, жыццё!..

Дзядзька Павел яшчэ ў пяцьдзесят трэцім годзе пайшоў з дому і не вярнуўся, так ужо абяспамяцеў. Надзя ледзьве знайшла яго ў адной з бальніцаў, на самым адыходзе.

Сама яна, сардэчніца, памерла ўлетку шэсцьдзесят сёмага.

Потым Валя. І ўжо таксама семнаццаць прайшло.

Мая Адэса для мяне пусцее...

Зрэшты, на гэты раз я меў толькі тры гадзіны вольнага часу, ад самалёта да вечара ў тэатры, дзе будзе Шаўчэнкава міжнароднае свята, дзе трэба будзе выступіць, а пасля вечара — на цеплаход і ў Херсон, і далей.

Я паспеў толькі сустрэцца з Віктарам, пагаварыць ды памаўчаць, удвух над Валіным фотаальбомам... Інжынер-будаўнік, і ён тым часам — куды мы, Божа, спяшаемся? — таксама ўжо добра на шостым дзесятку.

А бацьку не памятае зусім...

### БРАТ № 17643

Быкаўнянскія сосны больш дародныя за нашы, што ў Курапатах, хоць і растуць таксама на пясчаным грунце. І лес як быццам чысцейшы, цяплейшы. Як у нас на Брэстчыне. Сярод сосен сям-там акацыі, якім гадоў па дваццаць пяць. Трава і траўка, свежая, якою гэтай вясной пакрылі раскопкі, маскуючы сляды эксгумацыі. Яшчэ і бярозкі, таксама сёлета пасаджаныя, — у светлым дзіцячым няведанні яны хораша прыняліся, зеленеюць новай лістотай, пяшчотна стракацяць тоненькімі стваламі і галінкамі.

Прастадушны румянец вялікіх півоняў — букеты ў нашых руках. Я прыехаў сюды са сваім даўнім сябрам, украінскім пісьменнікам. Кветкі мы пакладзем да помніка з чырвонага граніту, перад якім стаімо. На ім надпіс: «Вічна пам'ять», а што было яшчэ ў правым ніжнім кутку — пра ахвяры... нямецка-фашысцкіх зверстваў — акуратна здзёўбана. Нядаўна. Пад націскам грамадскасці.

«У мяне не забілі нікога — ні маці, ні жонкі, ні брата...» Успамінаецца такі пачатак ваеннага верша аднаго з нашых паэтаў. Гэты першы радок засеў у памяці даўно і частавата паўтараецца з нейкім няпростым сэнсам. Успамінаецца і бліжэйшае, з тэлеперадачы пра адкрыты, паказальны суд паміж старонікамі розных лагераў: прасталінскага і новага, сучаснага. Слова сваё прагрэсіўны адказчык пачаў з таго, што ў сям'і яго ніхто не быў рэпрэсіраваны, і таму ён будзе гаварыць зусім аб'ектыўна. Як і той, у каго не забілі нікога, і таму ён пра зверствы гітлераўцаў таксама гаворыць з вышэйшай пазіцыі.

І дзякуй Богу, што не забілі, не рэпрэсіравалі.

А ў мяне брат, у сябра майго жончын бацька. Усенароднае мы адчуваем праз сваіх. Мяркую так па сабе, бо мы, вядома, маўчым. Усе ж яны, якіх тут пад старой і навенькай травой толькі сям-там прыкрытая безліч, усе камусьці блізкія, а з гэтых блізкасцей і складаецца неабдымна жахлівая лічба сталінскіх ахвяраў, пра якія так пранікнёна гавораць словы памінальнай малітвы: «...имена же их Ты, Господи, веди...» І ад свайго, ад роднага ідучы, я неяк бачу, нібы ўяўляю мноства тых, каго не бачыў, не ведаў, а намагаюся адчуць іх жывымі, у невыносных пакутах... З яшчэ большай безліччу іхніх сем'яў, таксама ж ахвяр, пакутнікаў.

# крынічка

ЦЁТКА

## СВАРБА

Пасварылася вясна з зімою, ну і давай адна адной злосць рабіць.

— Я, — кажа вясна на зіму, — не буду з табой шмат гаварыць! За каўнер і так шпургану, што аж за лясамі ты ў мяне апынешся!

— Маўчы, маўчы, — бурчала белая зіма. — Хіба я цябе ў барані рог заганю, як сцісну, то аж табе вылезуць вочы.

Ну і пачалі адна адной наперакор рабіць. Зіма паўзе з марозам — вясна лезе з адлігай, ізноў няма парадку. Цярпелі людзі, цярпелі, а после давай сход рабіць, давай радзіць, на чыёй тут старане ім стаць. Адны казалі:

— Мы яшчэ не вымалацілі збожжа, не навазілі дроў, не адпачылі после летняй працы, хай пабудзе зіма.

Другія зноў крычалі:

— Вон зіму! Яна нас памарозіць, мы і так лапці патапталі, кажухі абадралі. Досыць нам яе, хочам вясны.

І няведама, як то яно прайшло б на тым сходзе, каб не ўвайшоў старэнькі жабрак і не пачаў жаліцца на зіму.

Праўда: вушы былі абмарожаны, рукі пакрэпшы, світка рвана, сам ён дрыжаў ад холаду. Увесь сход закрычаў у адзін голас:

— Не хочам зімы! Хай вясна ідзе да нас!

Бедная зіма заплакала горка на людзей, слёзкі яе цяклі са стрэх, білі па шыбах, разліваліся па зямлі, збягалі ў лужы, з лужаў у рэчкі, з рэчак у моры, з мораў у акіяны.

А вясна смяялася, строілася ў кветкі, гарцавала па палях, песцілася ў садох, шчабятала з птушкамі, цалавалася з дзеткамі, аж пакуль не пасварылася з летам.

Хто цяпер абдалее, скажыце, дзеткі, самі.



Фотаэцюд Я. КАЗЮЛІ.



«Навасёлкаўскія музыкі» — так называецца дзіцячы фальклорны ансамбль з калгаса «Кастрычнік» Слонімскага раёна. А пазнаёміў дзяцей з народнымі мелодыямі, з многімі абрадавымі песнямі кіраўнік калектыву Станіслаў Зімніцкі. Цёпла сустракаюць аднавяскоўцы кожнае выступленне юных музыкантаў. НА ЗДЫМКУ: салісткі ансамбля Наташа КОЗІЧ і Марына КАСПЯРОВІЧ.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

## КАЛЫХАНКА

### ДОБРЫ ВЕЧАР

**Добры вечар, сад, сад,**
**Ўжо бярозкі спяць, спяць.**
**Мы таксама ўсе заснём,**
**Толькі песеньку спяём.**
**Нашым дзеткам — дон, дон,**
**Хай прысніцца сон, сон.**

**Добры сон, шчаслівы сон,**
**Спіце, дзеткі, — дон, дон,**
**Добрай ночы, сад, сад,**
**Усе дрэвы спяць, спяць.**
**Нам таксамам спаць пара,**
**Спаць пара...**

Міхась ПАЗНЯКОЎ

## СКОРАГАВОРКІ

### КАША

**Згатавала Саша**
**Кашу для Машы,**
**Маша Сашы ўдзячная —**
**Каша ў Сашы смачная.**

### КАЦІЛАСЯ ТОРБА...

**Кацілася торба**
**З вялікага горба.**
**А ў той торбе**
**Хлеб, паляніца.**
**З кім ты хочаш**
**Падзяліцца!**

Валянціна КОЎТУН

### ЦЕЦЯРУК-МУЗЫКА

**Расцвіла ў лясах вясна,**
**Шышкі вымыла сасна.**
**У бярозы-чараўніцы**
**Зазвінелі завушніцы.**
**Ганарысты цецярук**
**Прыляцеў і сеў на сук.**
**Хвост яго, бы ліра,**
**Толькі струны нацягні,**
**Песню веснюю пачні**
**Весела і шчыра.**

Уладзімір СКАРЫНКІН

### ЗДАГАДКА

**Горад Слонім ёсць на Шчары.**
**Ды чамусьці не сланы**
**Топчуць ля яго абшары,**
**А ласі і кабаны.**

**Мой таварыш —**
**самы добры! —**
**Побліз Кобрына жыве.**
**Там вужакі, а не кобры**
**Выгінаюцца ў траве.**

**Ад уражанняў у Львове**
**Кругам пойдзе галава.**
**Ды не ўбачыш у дуброве**
**Там, за горадам, ільва.**

**Толькі быць не можа ўсё-ткі,**
**Каб у даўнія гады**
**Выпадкова**
**нашы продкі**
**Так назвалі гарады.**

**Пасвіў я кароў на пашы —**
**І здагадка апякла:**
**Некалі ў мясцінах нашых,**
**Пэўна, Афрыка была!**

## ПАЦЕШКІ

### ЧЫ-ЧЫ, ЧЫ-ЧЫ, ВЕРАБЕЙ...

**— Чы-чы, чы-чы, верабей,**
**Не клюй маіх канапель,**
**Бо я табе, вераб'ю,**
**Кіем ножку пераб'ю.**
**Верабейка палятаў,**
**Канапелек не чапаў.**
**Пачаў лавіць мошачку,**
**Звіхнуў сабе ножачку.**
**Я на тую ножку**
**Пашыю панчошку,**
**Я на тое цельца**
**Вытку палаценца.**

### ІШЛА КАЗА

**Ішла каза рагатая, бадатая:**
**— Каго пападу, таго забаду.**
**Алену папала,**
**Аленку забадала:**
**Будык-будык-будык!**

### ГО-ГО, ГО-ГО, ГУСАЧОК

**Го-го, го-го, гусачок!**
**Зрабі хлопчыку свісток**
**З беласнежнага крыла**
**Ды з бліскучага пяра.**

**І зрабіў ён, і падаў,**
**І сыночак заіграў.**

ВУЧЫМСЯ ГУЛЯЦЬ

## ЛЯЦЯЦЬ ГУСІ

І дома, і ў садку дзяцей можна лёгка захапіць гэтай цікавую гульнёю. Усе ставяць указальныя пальцы на стол, у адно месца. Тады старшы кажа:

— Гусі ляцяць! —

і паднімае руку ўверх, паказваючы, як ляцяць гусі.

Дзеці адказваюць: «Ляцяць!» — і таксама паднімаюць рукі.

— Качкі ляцяць!
— Ляцяць!
— Вераб'і ляцяць!
— Ляцяць!
— Мухі ляцяць!
— Ляцяць.
— Акуні ляцяць!

Захапіўшыся, дзеці часа адказваюць:

— Ляцяць! —

і таксама паднімаюць рукі.

Тады старшы нямоцна б'е іх па руках і крычыць:

— Не ляцяць! Не ляцяць!

Потым гульня пачынаецца спачатку:

— Гусі ляцяць! Вароны ляцяць! Сарокі ляцяць! Каровы ляцяць!

Але навучаныя вопытам, дзеці ўжо не паднімаюць на карову рук і маўчаць. Старшы тым часам зноўку вядзе сваё:

— Гусі ляцяць! Лебедзі ляцяць! Жаваранкі ляцяць! Дубы ляцяць! і г. д.

Гэты своеасаблівы ўрок прыродазнаўства канчаецца тады, калі ўвага малых стамляецца і яны пачынаюць абы-калі паднімаць рукі.

## У САДОЧКУ

Дзеці становяцца ў круг, водзяць карагод і спяваюць:

**Заінька за садочкам,**
**Шэранькі за садочкам.**
**Заінька, выйдзі ў садзік,**
**Шэранькі, выйдзі ў садзік.**

Заінька, які да песні ходзіць за кругам, уваходзіць у круг. Дзеці пляскаюць у далоні і пяюць:

**Заінька, папляшы.**
**Заінька, папляшы.**

Заінька танцуе. Потым яны даюць другое заданне:

**Заінька, тупні ножкай,**
**Шэранькі, тупні ножкай.**
**Шэранькі, тупні ножкай.**

Тады ўсе дзеці бяруцца за рукі і прапаноўваюць:

**Заінька, выбірай,**
**Шэранькі, выбірай.**

Заінька выбірае кагосьці з дзяцей на сваё месца, і той становіцца зайчыкам. Гульня пачынаецца спачатку.

## ЗАГАДКІ

На хляве два дубкі. (Рогі ў каровы)

Хто не хворы, а ўсё стогне! (Свіння)

Лес сяку, лес вяне, на тым месцы горад стане. (Сенакос)

Залатыя горы растуць у летнюю пору. (Копы)

Каля вуха завіруха, а на вуліцы кірмаш. (Пчолы ў вуллі)

Круціцца, верціцца, на ноч павесіцца. (Цэп)

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Зак. № 350.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12